# Делегация советских ученых в Берлине

БЕРЛИН, 28 января.

Вчера штатс-секретарь германского министерства просвещения Цшинч дал обед в честь прибывшей сюда из Братиславы делегации советских ученых в составе председателя Комитета по делам высшей школы при Совнаркоме СССР тов. Кафтанова и профессоров Виленского, Новикова, Еголина и Деймека. На обеде присутствовали полпред СССР в Германии тов. Шкварцев, секретарь министерства иностранных дел г. Кепплер, руководители ряда культурных организаций и видные германские ученые.

Вечером советская делегация вместе с полпредом СССР тов. Шкварцевым, в сопровождении германских официальных лиц, посетила государственный оперный театр и в 10 часов выехала из Берлина в Москву. На вокзале гостей провожали полпред СССР в Германии тов. Шкварцев, заведующий протокольным отделом германского министерства иностранных дел Дернберг и многие представители германских правительственных и культурных учреждений.

(ТАСС).

# Нажим лейбористских лидеров на местные организации

ЛОНДОН, 28 января. Растущее в низовых организациях лейбористской партии недовольство политикой исполкома, поддерживающего империалистическую войну, вызывает среди лейбористских лидеров все большую тревогу.

10 февраля в Саутварке (Лондон) должны происходить дополнительные выборы в парламент. Помимо официального кандидата лейбористской партии, здесь баллотируется независимый кандидат и лейборист Сирсон, выступающий против политики исполкома по вопросу о войне. Руководство лейбористской партии, боясь провала на выборах своего официального кандидата, предупредило членов местной организации, что в случае выступления против него они будут подвергнуты суровым взысканиям.

(ТАСС).

## АНДЕРСЕН-НЕКСЕ РАЗОБЛАЧАЕТ ФРАНЦУЗСКУЮ РЕАКЦИЮ

СТОКГОЛЬМ, 28 января. В большой статье, опубликованной сегодня в газете „Нюдаг" известный датский писатель Мартин Андерсен-Нексе пишет о походе французской реакции против культуры и ее представителей. Французские власти посадили за решетку видных революционно-настроенных писателей и теперь усердно очищают публичные библиотеки от „подозрительных" книг. В последнее время ими были конфискованы произведения Горького, Джека Лондона, Майкл Голда и ряда других писателей.

Распустив „международное—об'единение писателей в защиту культуры", французские власти начали преследование его членов. Ряд видных писателей, произведения которых весьма популярны во Франции и в Англии, посажен в концентрационный лагерь Верне в Арьеж, где их заставляют под охраной вооруженных сенегальцев работать в каменоломнях. Начальником этого лагеря является один из видных членов реакционной организации „Аксион франсез", подвергающий заключенных писателей систематическим избиениям.

(ТАСС)

## ПРОТЕСТ ПРОТИВ ПОМОЩИ БЕЛОФИННАМ

СТОКГОЛЬМ, 28 января. Как сообщает норвежская газета „Арбейдерен", общее собрание членов профсоюза металлистов и судостроителей города Трондгейма (Норвегия) приняло резолюцию протеста против оказания помощи белофинляндии. В резолюции указывается, что норвежское правительство не пресекает деятельности реакционеров, требующих активного выступления Норвегии в пользу маннергеймовской Финляндии.

(ТАСС).

# АГЛЯД ЗАМЕЖНЫХ ТЭЛЕГРАМ

У англійскім тылу не ўсё спакойна. Фронт прыхільнікаў міру расце і мацнее. Аб'явіўшы вайну Германіі, англійскія імперыялісты паспяшылі прымусіць урады сваіх дамініёнаў прарабіць то-ж самае. Правячыя кругі Англіі ўскладалі вялікія надзеі на абаронную магутнасць сваіх уладанняў. Але факты говораць зваротнае.

Нядаўна выявіліся буйныя бязладзіцы ў Канадзе. Як паведамляе амерыканскі друк, 25 студзеня канадскі ўрад закрыў сесію парламента ў самым пачатку яе работы. Пасля трохгадзіннага пасяджэння, не паспеўшы разглядзець чарговых заканадаўчых прапаноў, сесія была закрыта, а парламент распушчан. Чаму-ж урад пайшоў на гэты скандальны шаг? Аказваецца, ён быў напалохан рэзкай крытыкай яго памылак „па пытаннях вядзення вайны". Нават дзеячы кансерватыўнай партыі асуджалі ўрад. Адзін з кіраўнікоў гэтай партыі ў час спрэчак прывёў выпадак, калі салдаты мабілізаванай дывізіі не мелі неабходнага адзення і снаражэння.

Не лепш абстаяць справы і ў Паўднёва-Афрыканскім Саюзе. 23 студзеня ў Кептаўне (галоўны горад Паўднёва Афрыканскага Саюза), на пасяджэнні парламента выступіў былы прэм'ер - міністр Паўднёва-Афрыканскага Саюза Герцаг. Ён сказаў, што вайна супроць Германіі і германскага народа з'яўляецца ні чым іншым, як злачынствам, зробленым „міжнароднымі забойцамі і грабежнікамі". Герцаг унёс у парламент рэзалюцыю, патрабуючую заключэння міра з Германіяй. У спрэчках па гэтай рэзалюцыі рэзкай крытыцы пад пала становішча абароны Паўднёва-Афрыканскага Саюза. Член парламента Покок заявіў, што абарона Паўднёвай Афрыкі знаходзіцца ў базнадзейным становішчы. Краіна не загатовіла да пачатку вайны ні сучасных самалётаў, ні дастатковай колькасці боепрыпасаў. 150 салдат, якіх, як хвастліва заяўляў у свой час былы міністр абароны, можа выставіць Паўднёва - Афрыканскі Саюз, аказаліся без зборі, без абмундзіравання.

Англійскае панаванне ў Індыі, як гэта відаць з апошніх падзей, трашчыць па ўсіх швах. У краіне разрастаецца нацыянальна-вызваленчы рух. 26 студзеня па ўсёй Індыі быў праведзен „Дзень незалежнасці". Яшчэ ў снежні мінулага года бюро выканкома індыйскага Нацыянальнага кангрэса вынесла рашэнне правесці 26 студзеня „Дзень незалежнасці" пад лозунгамі: „Індыйскі народ мае права на свабоду", „Індыя павінна парваць сувязі з Англіяй". Арганізаваныя кангрэсам дэманстрацыі мелі месца ва ўсіх галоўных гарадах Індыі. У Бамбеі не працавалі 50 прадпрыемстваў, рабочыя якіх далучыліся да дэманстрацыі.

* * *

Раз'юшаныя рэакцыянеры ўсімі сіламі стараюцца ўставіць палкі ў калёсы растучаму антываеннаму руху. Нядаўна ва Францыі выдан новы дэкрэт, які ўстанаўлівае яшчэ больш суровыя пакаранні за апублікаванне ў друку паведамленняў, „якія могуць адмоўна ўплываць на дух арміі і насельніцтва". Парушэнне дэкрэта караецца турмой і вялікім грашовым штрафам.

Але дарэмны намаганні рэакцыянераў. З кожным днём усе гучней і выразней раздаюцца галасы прыхільнікаў міра. Антываенны фронт ва ўсім свеце расце і мацнее.

У бельгійскай соцыялістычнай партыі расце нездавальненне кіраўнікамі партыі, якія ўключыліся ў кампанію падпальшчыкаў вайны. Соцыяліст Брунфо, дэпутат бельгійскага парламента, адмовіўся ўдзельнічаць у раз'юшанай антысовецкай кампаніі, правадзімай, так званым, соцыялістычным друкам. Брунфо выдае газету „Лютт соцыяліст", у якой правільна асвятляе становішча працоўных мас у Англіі, Швецыі, Нарвегіі і другіх краінах, а таксама выкрывае махінацыі друзей ката фінляндскага народа Манергейма. За гэта Брунфо быў выключан кіраўніцтвам з соцыялістычнай партыі Бельгіі. Тым не менш ён астаўся верны сваім перакананням і прадаўжае выкрываць здрадніцкую дзейнасць главароў соцыялістычнай партыі.

(ТАСС).

# НА ЗАПАДНОМ ФРОНТЕ

БЕРЛИН, 28 января.

В сводке верховного командования германской армии указывается: „На фронте — никаких особенных событий".

Германское информационное бюро передает, что на фронте вблизи Альтенгейма на Рейне французы впервые попытались в целях пропаганды использовать громкоговорители. В ответ на это германские войска открыли огонь.

БЕРЛИН, 28 января.

В американском журнале „Либерти" английский писатель Герберт Уэльс требует беспощадной бомбардировки Берлина.

В ответ на это требование германское информационное бюро заявляет, что Уэльсу и его английским хозяевам можно сказать только одно: „На всякую попытку бомбардировать германские города военно-воздушный флот Германии ответит такими мерами, о каких, повидимому, они не имеют достаточного представления. За бомбы, сброшенные на Берлин, Лондон поплатится в десятикратном размере. Английские летчики, имеющие некоторый опыт, могут лучше судить о том, что означала бы для них такая попытка, нежели господин Уэльс, сидящий за своим письменным столом".

(ТАСС).

# ВОЕННЫЕ ДЕЙСТВИЯ В КИТАЕ

## В ЦЕНТРАЛЬНОМ КИТАЕ

В северной части провинции Чжэцзян (в районе Сяошаня) японские войска за последние несколько дней потеряли убитыми около 3 тысяч солдат. Вчера большие бои происходили в окрестностях Сяошаня.

Китайские войска три раза врывались в город через городские ворота. Бой продолжался до поздней ночи. Японская артиллерия расположенная на северном берегу реки Цзяньшан выпустила свыше 200 снарядов по китайским позициям, находящимся на южном берегу реки Цзяньшан.

В центральной части провинции Хубэй китайские войска, окружив японский гарнизон в Янцзычене (севернее Чжунсяна), продолжают сжимать кольцо.

По запоздавшим сведениям, 19 января китайские части атаковали японские позиции в Гуаншуе (в 150 клм. севернее Ханькоу). После трехчасового боя японцы, не выдержав напора китайских войск, укрылись в городе. В районе Гуаншуя китайские войска разрушили железнодорожное полотно на протяжении свыше 3 километров.

## В СЕВЕРНОМ КИТАЕ

В северной части провинции Хэнань, в районе Хуайцина, 21 января между китайскими и японскими войсками произошел ожесточенный бой. Японцы, потеряв свыше ста человек убитыми и ранеными, отступили. В тот же день другой китайский отряд атаковал японские позиции в Сяцзичене (севернее Хуайцина.) Японский отряд отошел в северном направлении к Баом.

Сообщений о положении на фронтах Южного Китая не поступало.

* * *

26 января китайская авиация бомбардировала военные склады на окраинах Нанкина, причинив японцам тяжелые потери. После этого китайские самолеты бомбардировали японские войска, расположенные вблизи Нанкина.

25 января шесть японских самолетов бомбардировали Чэнсянь, на скрещении шоссейных дорог в северной части провинции Чжэцзян. Японцы сбросили 25 бомб. Убито 20 человек. Разрушено 167 домов.

28 января (ТАСС).

## ПОДГОТОВКА К ВВЕДЕНИЮ КАРТОЧНОЙ СИСТЕМЫ В ЯПОНИИ

ТОКИО, 28 января. Агентство Домей цусин сообщает, что на заседании японского кабинета обсуждался вопрос о положении с товарами широкого потребления. Правительство изучает сейчас вопрос о введении карточной системы на продукты первой необходимости, в частности на рис и употребляемый для отопления жилищ древесный уголь. Отдельные члены кабинета настаивают также на введении карточной системы на пшеницу, ячмень и сою.

(ТАСС)

Нам. адказнага рэдактара
І. В. Каралькоў



Адрас рэдакцыі і выдавецтва: г. Беласток, будынак Аблвыканкома. Тэлефоны рэдакцыі: адказнога рэдактара—45; партаддзела і сакратарыята —47; сельскагаспадарчага, культурнага, літаратуры і мастацтва, школьнага і інфармацыйнага аддзелаў—17.62 выдавецтва і аддзел аб'яў—35; друкарня і начная рэдакцыя 5.21. Падпіску на газэту прымае Саюздрук тэл. 5.14.

Упаўнаважаны абліта № 77. 1-я дзяржаўная друкарня ў г. Беластоку.